КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

### Не гуляў, а прыкурваў

Бацька лаецца з парога:
– Не засвоіў ты навукі?
Я ж табе наказваў строга,
Каб не браў запалкі ў рукі,
Бо з-за іх бяды багата,
Як гуляюць шпінгалеты.
– Не гуляў я з імі, тата,
А прыкурваў цыгарэты…

### Першы падман

Што ні думай і як ні круці,
Соска – першы падман у жыцці.

### Надзейны рэцэпт

Назіранне я агучыць рады
Гаспадыні ў якасці парады:
Дапамогуць скрыць
чатыры пляшкі
Вашы кулінарныя прамашкі.

### А колькі грошай за навуку?

– Жыццё сапраўднай
казкай стане,
Бо не раўня я смаркачу!
І вы спазнаеце каханне –
Такому ў ложку навучу!
– Прыемна чуць такія словы.
Я нават згодна – не таю.
Ды колькі грошай даць гатовы
На адукацыю маю?..

### У магазіне

Званок у «хуткую».
Мужчына:
– Я вас турбую з магазіна.
Сюды сваю прывёў я жонку,
Яна нагледзела дублёнку.
У выніку – істэрыка.
І што рабіць цяперака?
– Патрэбна адысці цішком,
Шпурнуць у жонку кашальком…

### Куфар

Харошы муж – як куфар:
Ён стары,
І многа грошай, золата ўнутры.
Яго не толькі трэ знайсці хутчэй,
Але і потым закапаць яшчэ…

### Удалае рашэнне

Каб дзеці вывучыць маглі
Табліцу множання як след,
Рашылі: будзе лепш, калі
Змяшчаць на пачках цыгарэт.

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

# Без Кастуся Цвіркі, але з Віктарам Шніпам

Пару тыдняў таму я зайшоў у адну кнігарню (дарэчы, побач з рэдакцыяй «Народнай Волі») і ўбачыў кнігу, у падзагалоўку якой на вокладцы стаіць: «Паэтычныя творы для дадатковага чытання ў 9-м класе». Я шмат гадоў выкладаў літаратуру для падлеткаў гэтага ўзросту і таму не мог не зацікавіцца кнігай. Ведаю, што ў 9-м класе агульнаадукацыйнай школы дзеці павінны праходзіць такі падагульняючы ўступны курс беларускай літаратуры – ад Кірылы Тураўскага і практычна да нашых дзён. Ну добра: Мікола Гусоўскі, Францішак Багушэвіч, Цётка, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Янка Купала, Якуб Колас, іншыя народныя паэты, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Алесь Разанаў, Яўгенія Янішчыц уваходзяць у кола аўтараў для чытання і вывучэння ў класе. І я чакаў, што сустрэну ў згаданай кнізе імёны і творы, напрыклад, Наталлі Арсенневай, Рыгора Крушыны, Алеся Дудара, Юлія Таўбіна, Яўгеніі Пфляўмбаўм, Кастуся Цвіркі, Алеся Наўроцкага, Міколы Купрэева, Уладзіміра Някляева, Валянціны Аксак, Алега Мінкіна, Уладзіміра Арлова, Леаніда Дранько-Майсюка, Анатоля Сыса, Міхася Скоблы, Андрэя Хадановіча… Якіх чамусьці «забыліся» ўключыць у асноўную праграму, хаця яны (і не толькі яны) гэтага, безумоўна, вартыя.

Адгортваю змест кнігі – і не веру сваім вачам. Аказваецца, сучасным беларускім падлеткам цяпер ну ніяк не пражыць без чытання ажно 117 вершаў Віктара Шніпа, 39 твораў Міколы Шабовіча і 51 верша Міколы Маляўкі. Бо яны разам з некалькімі дзясяткамі добрых вершаў вышэйзгаданай Янішчыц і склалі ўвесь змест чытанкі паэзіі для нашых дзевяцікласнікаў!

Што ж за такое дзіўнае ўкладанне? Пачакайце! Якое выдавецтва падрыхтавала гэтую кнігу? Дзяржаўнае – з назвай «Беларусь». А хто ж укладальнік кнігі? Галоўны рэдактар таксама дзяржаўнага выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар




Шніп. А хто ж гэтак багата «ўклаў сябе» (ажно 117 вершаў!) у гэтую кнігу? Правільна, той самы – Віктар Анатольевіч Шніп! І выданне, аказваецца, «ажыццёўлена па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь».

Гляджу ў выхадных звестках кнігі: які ж наклад кнігі, асноўная назва якой – «Балада камянёў» (назва верша таго ж Шніпа)? Не веру сваім вачам: наклад 22.800 экзэмпляраў!!! Кніга ў цвёрдай вокладцы, на якаснай афсетнай паперы. Выдаткі толькі на друк такога «шэдэўра» павінны скласці ніяк не менш за тры долары ЗША на адзін экзэмпляр. Гэта значыць, што агулам друк кніжкі разам з матэрыяламі абышоўся беларускім падаткаплацельшчыкам недзе не менш як у 65–70 тысяч долараў! Пра тое, ці плаціўся вышэйзгаданым Шніпу, Шабовічу і Маляўку ганарар, не пішу, бо таго не ведаю, хоць і падазраю, што таксама мог плаціцца… А гэта было б яшчэ звыш названай велізарнай сумы. У кнігарні кніга каштуе каля чатырох рублёў; відавочна, абсалютная большасць накладу пойдзе ў школьныя бібліятэкі, зойме там паліцы – таму дзяржаве ў самым аптымістычным выпадку вернецца працэнтаў пяць ад укладзеных у яе грошай.

Ведаеце, ужо амаль тры гады прыватны выдавец Зміцер Колас з дапамогай аўтара гэтых радкоў выдае кніжкі серыі «Паэты планеты». Кожная мае наклад па 250 асобнікаў, з іх у гандаль трапляюць дзве сотні. Сярод аўтараў гэтых кніжак – не толькі Петрарка, Шэкспір, Гётэ, Бадлер, Кавафіс, Ейтс, Апалінэр, Лорка ці Містраль. Было выдадзена і па 250 (амаль у сто разоў менш, чым кнігі «Балада камянёў»!) асобнікаў самых лепшых выбраных вершаў Рыгора Барадуліна і Алеся Разанава. Трэба сказаць, што да канца *нават іх* творы да сёння не распрадаліся (хоць іх засталіся лічаныя асобнікі). Наогул, чытачоў паэзіі, і паэзіі на беларускай мове таксама, з кожным годам не прыбывае – гэта ведае кожны. І іх, пэўна што, не прыбудзе, калі Гётэ за ўласныя сродкі прыватнага выдаўца і ўкладальнікаў будзе выдавацца ў колькасці чвэрці тысячы асобнікаў, а, прабачце, Шабовіч ды Маляўка (пры ўсёй маёй да іх павазе) – у дзясятках тысяч…

Сам Віктар Анатольевіч Шніп, магчыма, скажа: ён асабіста не вінаваты, што сённяшнія «спецыялісты» вось так уклалі школьную праграму па літаратуры. Дапусцім (хоць гэта не зусім праўда). Але хто змушаў аўтара большасці вершаў шматтыражнай кнігі дзяржвыдавецтва паставіць *сваё* прозвішча ў якасці яе ўкладальніка? Ну хоць бы нейкі псеўданім сабе абраў ці каго іншага папрасіў!

Вядома, як і крыжалом у Курапатах, так і «літаратурны крыжалом» спыніць цяжка. Але не ўдзельнічаць у ім, па-мойму, цалкам магчыма.

Некалі іншы «дзяржаўны» паэт, Мікола Мятліцкі, напісаў, што сітуацыя з беларускай мовай у нас цяжкая, але яму, маўляў, на ягонае жыццё «яе хопіць».

Цяжка ўсё гэта каментаваць…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, педагог, літаратурны перакладчык.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# З пачуццём удзячнасці і павагі…

З пачуццём удзячнасці і павагі мы, брэсцкія прыхільнікі духоўнай спадчыны Алены Іванаўны Рэрых, пазнаёміліся з яе цудоўнымі артыкуламі «Тры ключы», «Да моладзі» і «Да настаўнікаў і бацькоў», якія былі надрукаваны на старонках паважанай намі газеты «Народная Воля» ў №№31 і 32 ад 19 і 23 красавіка бягучага года.

Мы прыемна ўражаны тым, што Вы, Іосіф Паўлавіч, як галоўны рэдактар газеты рэспубліканскага ўзроўню, упершыню на нацыянальным узроўні высока ацанілі і смела паднялі праблему годнага ўшанавання 140-годдзя з дня нараджэння вялікай жанчыны XX стагоддзя Алены Іванаўны Рэрых, данеслі да шырокага кола чытачоў асноўныя палажэнні яе бессмяротнага вучэння, якое і сёння гучыць набатам у справе выхавання падрастаючага пакалення ва ўмовах жорсткіх выклікаў жыцця.

Многія з нас, пасля знаёмства з артыкуламі А.І.Рэрых, вырашылі і надалей падпісвацца на «Народную Волю» ў знак павагі да газеты, якая непахісна служыць папулярызацыі сярод беларускага грамадства прынцыпаў праўдзівасці, высокай духоўнасці, сыноўскай любові да Бацькаўшчыны, яе гісторыі і павагі да беларускай і сусветнай культуры!

Прыхільнікі высокай духоўнай спадчыны:

**Валянціна ПЕЙГАНОВІЧ, Леанід НЕСЦЯРЧУК, Галіна МІРОНАВА, Галіна БАРУШКА, Аляксандр БОГНАТ, Юрый ГУЛЬ, Анатоль ВОЛКАЎ, А. ГЛАДУН, Мікалай ЗУБКО і іншыя – усяго 19 чалавек.**

*Брэст.*

РЕПЛИКА

# … А именных елочек у них нет

Не без удовольствия прочитал в «Народной Воле» статью Елены Молочко под названием «Елки, палки и народные артисты». Сразу вспомнилась фраза великого Аркадия Райкина: «*Есть люди, которым плохо, когда другому хорошо*» (в данном случае – когда другим хорошо). Особенно понравились размышления журналиста про кусты сирени и про «яблони в цвету».

Я часто бываю в филармонии, но впервые слышу про уникальный яблоневый сад на бульваре Мулявина, а тем более про кусты сортовой сирени. К тому же, выходя обычно через служебный вход, я ни разу не видел людей, специально вышедших после концерта полюбоваться дивным яблоневым садом.

А теперь про именные елочки…




В отличие от своих детей, я пользуюсь только общественным транспортом. И когда проезжаю мимо Музея истории Великой Отечественной войны, голос диктора в транспорте мне сообщает, что автор этого проекта – **Виктор Крамаренко**, создатель проектов Железнодорожного вокзала и Национальной библиотеки. Так благодаря звучащему в автобусе ролику я узнал, что есть такой вот прекрасный человек – архитектор Виктор Крамаренко. Значит, польза от этого есть? Несомненно! Так и елочки… Ведь это совершенно новая и уникальная форма пропаганды уважаемых личностей, которую первым реализовал генеральный директор Белгосфилармонии **Александр Валентинович Гарбар**. И если люди, едущие в транспорте, слышат имена авторов проектов зданий и узнают про их существование, то почему народ не должен знать имя автора этой уникальной идеи? Это творческий проект, а это значит, у него должен быть автор. Как говорится, Родина должна знать своих героев! Так что огромное спасибо Александру Валентиновичу Гарбару за этот эксперимент. Уверен, что пользы от него гораздо больше, чем от роскошных сиреневых кустов и возвышающихся над ними яблонь. Полюбоваться яблоней в цвету можно и на своих дачах, ну а те, кто ими еще не обзавелся, могут пока наслаждаться чудесной песней **Евгения Мартынова** и **Ильи Резника** с таким же названием!

А елочки пусть подрастают. И пусть по-хорошему позавидуют нам приезжие авторы и исполнители, ибо уверен, что именных елочек у них нет. Надеюсь, что только пока.

Я, например, всегда здороваюсь, а затем и прощаюсь со своей елочкой. Это очень поднимает настроение! Так что большое спасибо ЗАО «Мебель и стройматериалы» и его генеральному директору **Владимиру Михайловичу Янковскому**, приобретшим для меня этот бесценный подарок.

А перед Новым годом мы мою именную елочку украшаем всей семьей (смотрите фото!). Это становится традицией, причем не только для нас…

**Эдуард ХАНОК, народный артист Республики Беларусь, композитор.**

МНЕНИЕ

# Прогресс Беларуси – за талантливой молодежью!

Выдающемуся генетику В.П.Эфроимсону принадлежат слова: «Даже небольшая страна, например с пятью миллионами жителей, добивающаяся развития и реализации своих потенциальных гениев и талантов, за полвека оставит за собой в сто раз более населенную страну, которая сохранит в силе барьеры для развития своих потенциальных гениев». Что и говорить, умные люди, таланты – двигатели прогресса человечества. В век «информационного взрыва» эта аксиома особенно актуальна. А потому огромное значение приобретает проблема выявления одаренной молодежи.

Мощь любого государства определяется сейчас не количеством мускулов, не количеством машин, не количеством добытого или приобретенного золота, не обилием урожая, как это было ранее, а в первую очередь количеством умов, интеллектуальным потенциалом. Неслучайно многие развитые капиталистические страны, например, США, Англия, ФРГ, Япония, Южная Корея, Франция и многие другие, тратят миллиарды долларов на подготовку умственной элиты, «закупку мозгов».

Чтобы растить настоящих творцов, нужно создать новый тип школы, вывести ее на более высокий уровень. Нужны современная педагогика, научные подходы в обучении, воспитании детей и молодежи, комплексные государственные программы. Мировая практика свидетельствует о том, что государству не нужно жалеть денег на развитие науки и образования. Прогресс в самых разных сферах обеспечивается тогда, когда страна движется именно в этом русле. Вот пример. В 1961 году советский человек первым в мире побывал в космосе. И это не случайность. В пятидесятые-шестидесятые годы прошлого века в СССР на нужды науки и образования тратилось 10% национального дохода. В то время как в США на эти нужды выделялось всего 4%. Но, замечу: уже в 1985 году в Америке на развитие образования тратилось 12% нацдохода, а в Союзе – чуть больше 6%. Практичные деловые американцы, просчитав все возможные варианты, разработали государственную программу подготовки интеллектуального потенциала страны «Мерит». В соответствии с ней ежегодно в школах США из числа старшеклассников отбиралось до 600 тысяч способных учеников. Затем путем все более усложненных тестов из их числа определялись около 35 тысяч одаренных школьников, которые затем обучались в специально открытых колледжах. Для работы с этими учениками по специальным программам подготовили талантливых педагогов. Видимо, поэтому, по словам нынешнего директора «Роскосмоса» Дмитрия Рогозина, в освоении космоса Россия отстала от США лет на тридцать.

Такая же программа, как «Мерит», успешно осуществляется в Японии и во многих цивилизованных странах.

Сегодня нам нужны не простые исполнители, не человечки-винтики, не компромиссно настроенные граждане, а высокообразованные, интеллектуально развитые, сверходаренные, сверхцелеустремленные личности, профессионалы высочайшего класса, способные проявить гибкость мышления, смелость, решительность, мужество, неординарность. От этого зависит не только дальнейшее ускоренное развитие нашей страны, но и ее роль на мировой арене цивилизации.

В стране разработана концепция «Творческая одаренность». Мною еще в 1987 году (впервые в Советском Союзе) был предложен вариант такой программы. С введением института президентства она была несколько обновлена. Некоторые элементы моей программы самой жизнью внедрены в практику: работают учебные заведения нового типа – лицеи, гимназии, колледжи, различные научные центры, музыкальные школы в обычных школах, школы искусств и др.; проводятся различные интеллектуальные игры, конкурсы, олимпиады, победители областных и республиканских олимпиад зачисляются в вузы без экзаменов.

Следовало бы всесторонне проанализировать накопленный в стране опыт работы с такими детьми, систематизировать работу с талантливыми детьми в соответствии с современными требованиями, вызовами времени и нуждами государства. Полагаю, есть необходимость еще более активизировать работу специальных учебных заведений для одаренных детей, а также предусмотреть создание учебных комплексов, гибких модульных структур (учебно-воспитательные, культурологические центры и т.п.), которые включали бы в себя дошкольные, школьные и внешкольные учебные заведения. Например, учебно-методические комплексы «Детсад – школа – колледж – вуз», «Детсад – лицей (гимназия) – вуз», учебно-производственные объединения «Детсад – школа – вуз – предприятие» и т.п. Нужно предусмотреть создание региональных школ (центров) интенсивного обучения для победителей интеллектуальных игр, соревнований, конкурсов; подготовки сборных команд интеллектуалов региона; создание центров раннего развития на базе дошкольных учреждений. В каждом образовательном центре важно предусмотреть открытие научных центров, малых академий, творческих объединений и прочее.

Хотелось бы, чтобы ректоры вузов выступили инициаторами создания научно-производственных комплексов «Школа (гимназия) – лицей (колледж) – вуз – предприятие», вечерних школ при каждом факультете; профильных сезонных школ, действующих в каникулярное время; стали организаторами проведения различных интеллектуальных игр, соревнований, «турниров городов»; продолжали работу по дальнейшему совершенствованию деятельности очно-заочных школ по различным дисциплинам, поискам новых форм сотрудничества ученых с профильными вузами зарубежных стран.

Особую роль в подготовке интеллектуальной элиты могли бы сыграть школы при отделениях Национальной академии наук, авторские школы академиков и профессоров.

Я горячо поддерживаю идею создания на базе отдельных институтов базовых кафедр, к работе которых привлекались бы ученые с мировым именем, а также организации классов 14–16-летних подростков. Убежден, что только на стыке науки и образования мы можем достичь желаемых результатов. Через учебные комплексы мы можем создать мощный научный потенциал страны.

Всех интересует вопрос: кто же будет обучать и воспитывать юные таланты? Ведь их нужно готовить по специально разработанной программе. Об этом должно позаботиться государство.

Очень интересной и нужной формой работы с талантливыми детьми является Республиканская заочная школа. Нужно только активизировать ее работу. Время настоятельно требует от нас создания республиканской и региональных школ интеллектуального резерва (по примеру школ олимпийского резерва), главная цель которых – подготовка школьников к международным олимпиадам. В них должны обучаться учащиеся 10–11-х классов, победители и дипломанты региональных, областных и республиканских олимпиад. Школы (классы) должны быть оснащены современным оборудованием, работать на базе летних лагерей, школ нового типа в вузах и других.

Чтобы молодым людям реализовать свои природные способности, требуется практика, должны быть созданы соответствующие условия. Нужно иметь сеть технологических парков, научно-образовательные центры, школы будущего (по типу сочинского «Сириуса»). Дети сами на конкурсной основе выберут нужные направления.

Понятно, очень многое зависит от учителя. Существующая система стимулирования его труда устарела, не соответствует духу времени, эволюционным процессам в развитии образования в нашем обществе, является огромным тормозом в его развитии.

Обратим внимание на такой пример. В маленькой Голландии на рубеже XIX–XX веков произошел всплеск научной мысли. Только за первые 15 лет присуждения Нобелевских премий четверо лауреатов оказались голландцами. Этот всплеск был вызван реформой среднего образования, которая прошла в Голландии в 1862–1863 годах. Одной из целей реформы было привлечение в школу учителей, склонных к научной работе. Причем в плане возможности для занятий научной работой и издания своих трудов учителя голландских школ оказались в более привилегированном положении, чем преподаватели университетов. Результат не заставил себя ждать.

Мне думается, что на первых порах нужно предоставить учителю возможности для опубликования, обнародования своих научных трудов. Создать оптимальные условия, чтобы учителя проявляли высокую активность в деятельности научных обществ, симпозиумах и так далее. В связи с этим желательно разработать в стране систему карьерного роста учителя, используя опыт Сингапура, Англии и других стран. К примеру, установить три ступени: учитель-мастер, учитель-новатор и учитель-исследователь, сохранив прежнюю квалификационную градацию. Тем самым мы решим и сложную проблему привлечения мужчин в школу. Просто нужно дать им возможность зарабатывать и творить самим.

Что имеем в реальности? В Бресте из 5257 педработников 3261 учитель. И только трое из них носят почетное звание «Заслуженный учитель Республики Беларусь», и 26 человек награждены знаком «Отличник образования». Даже награждение грамотами Министерства образования – большая редкость.

На мой взгляд, кроме государственных наград следовало бы в каждом регионе разработать свои конкретные меры социальной поддержки и стимулирования труда работников образования.

Мы должны всегда помнить, что учитель – достояние нации и его труд должен быть достойно оплачен и вознагражден.

Ныне нам нужна новая экономическая модель школы. На Западе в 1960-е годы была разработана теория человеческого капитала. Суть ее такова. Поскольку образование существенно влияет на производство, то это и есть особая форма капитала. Раз так, то человеческий капитал является продуктом преднамеренного инвестирования. Поэтому за рубежом вкладывать деньги в развитие образования и науки считается выгодным делом.

Вот и нам нужно разработать свою государственную программу реформирования образования, предусмотрев в ней меры, чтобы предпринимателям разных уровней было бы выгодно направлять свои средства на развитие образования и науки. Малый и средний бизнес, если он реально свободен, – это потенциально важнейший источник финансирования рассматриваемой нами программы.

Финансирование программы можно наполнить за счет разумного использования доходной и расходной частей бюджета, меценатской деятельности промышленных предприятий и общественных организаций, спонсорства, добровольных взносов, продуманной системы налоговых льгот и другого.

Здесь я подхожу к конкретным предложениям. В этом году Брест отмечает свое 1000-летие. Было бы мудро и значимо, если бы Брест и Гродно были превращены в первые экспериментальные площадки по апробации региональных программ «Талантливые и одаренные дети».

Не менее значимым и эпохальным событием стало бы открытие в рамках «Шелкового пути» Славянского университета в Бресте за счет иностранных инвестиций. Это помогло бы организовать в университете подготовку дипломатов, юристов широкого профиля, экономистов, менеджеров и других. Уверен, что этот вуз стал бы высочайшим научным и культурным центром не только для Бреста, для страны, но и для всего постсоветского пространства.

**Иван ДРИГАЙЛОВСКИЙ, в недавнем прошлом директор средней школы, стаж 25 лет.**

*Брест.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
3 МАЯ 2019 г.

СА СВЯТАМ!




# Сёння, 3 мая, Польшча адзначае Дзень Канстытуцыі

## Сімвал нацыянальнай незалежнасці і прагрэсу

У гэты дзень у 1791 годзе Чатырохгадовы сейм Рэчы Паспалітай прыняў першую ў гісторыі Еўропы Канстытуцыю. Аўтарамі дакумента былі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, польскі магнат граф Ігнацы Патоцкі і грамадскі дзеяч Гуга Калантай.

Польшча абвяшчалася краінай пад кіраваннем спадчыннай канстытуцыйнай манархіі і парламента, які абіраўся на два гады. Канстытуцыя абмежавала шляхецкую дэмакратыю, ураўнавала мяшчан і шляхту ў некаторых палітычных правах, а таксама абмежавала паншчыну, распаўсюдзіўшы на сялян дзяржаўную абарону. Але дакумент дзейнічаў толькі 18 месяцаў і 3 тыдні, да пачатку расійскай інтэрвенцыі. Імператрыца Кацярына II бачыла ў Канстытуцыі 3 мая пагрозу абсалютызму, а шляхта – сваёй палітычнай магутнасці. Ужо ў лістападзе 1793 года Гродзенскі сойм адмяніў Канстытуцыю. За гэтым рушылі Другі і Трэці падзелы Рэчы Паспалітай. Польская дзяржава знікла з карты Еўропы на 123 гады.

Пазней, пасля набыцця Польшчай незалежнасці ў 1918 годзе, свята было адноўлена. Але пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, у 1946 годзе, камуністычная ўлада зноў забараніла яго публічнае святкаванне. У папярэдні дзень, 2 мая, палякаў прымушалі здымаць і хаваць нацыянальныя сцягі, каб 3 мая іх не было нідзе відаць. У 1951 годзе Свята Канстытуцыі было афіцыйна адменена.

Яно адрадзілася ў 1990-м, калі 3 мая зноў стала афіцыйным нацыянальным святам Польшчы і выхадным днём.

Варта адзначыць, што з-за кароткага перыяду дзеяння Канстытуцыя 3 мая не прывяла да вялікіх гістарычных змен, але стала для польскага народа сімвалам нацыянальнай незалежнасці, прагрэсу, імкнення да росквіту і дэмакратыі.

Сёння Свята Канстытуцыі – дзень урачысты і радасны. У гарадах краіны праходзяць парады, канцэрты, іншыя мерапрыемствы. Палякі адзначаюць свята на сямейных «маёўках».

## Сярэдні заробак – ад 1000 долараў, рост ВВП – ад 5 працэнтаў

Нацыянальнае свята Польшчы – нагода падвесці вынікі, узгадаць поспехі. А яны ў нашай суседкі, на зайздрасць, значныя і заўважныя для кожнага жыхара краіны.

Беларусы мараць пра сярэдні заробак у тысячу беларускіх рублёў, а ў палякаў ён ужо даўно перавысіў тысячу долараў. На пачатак 2019 года сярэдняя налічаная зарплата ў Польшчы складала 5071,25 злотага (1316,65 долара, альбо 1180,16 еўра), а «чысты» заробак (тое, што палякі атрымліваюць на рукі) – 3600 злотых (934,67 долара, альбо 837,78 еўра).

Сёння мінімальная пенсія ў Польшчы – 285 долараў – амаль удвая большая за сярэднюю працоўную пенсію па ўзросце, якую атрымлівае большасць беларускіх пенсіянераў – каля 185 долараў! Ну, а тое, што беларусы ездзяць на закупы ў Польшчу, таму што там літаральна ўсё – аддзенне, прадукты, «хімія», лекі – таннейшае, усім вядомы факт.

Дарэчы, апошнія некалькі гадоў у Польшчы дзейнічае праграма «Rodzina 500+», накіраваная на падтрымку сям'і і паляпшэнне дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне. Кожная сям'я мае права атрымліваць субсідыю ў памеры 500 злотых у месяц (каля 132 долараў) на другога і наступных дзяцей, а калі прыбытак сям'і ў пераліку на кожнага члена складае 800 злотых і менш (210 долараў і менш) аформіць выплаты можна і на першае ці адзінае дзіця. Праграма распаўсюджваецца на грамадзян Польшчы, а таксама на пэўныя катэгорыі замежнікаў, якія пражываюць у Польшчы.

Нядаўна Польшча, паводле класіфікацыі FTSE Russel, чые прагнозы ўлічваюць найбуйнейшыя сусветныя інвестыцыйныя фонды, увайшла ў лік краін з найбольш развітай эканомікай. Вядома, гэта не значыць, што польскую эканоміку можна супастаўляць з эканомікай ЗША ці Вялікабрытаніі. Нават у Цэнтральна-Усходняй Еўропе ёсць краіны багацейшыя за Польшчу, такія як Чэхія ці Славенія, але эканамічны поспех нашых суседзяў відавочны. Ён добра бачны, калі параўноўваць Польшчу, напрыклад, з Іспаніяй. Яшчэ ў 1989 годзе ВУП на душу насельніцтва ў Польшчы (улічваючы розніцу ў парытэце пакупніцкай здольнасці) складаў толькі 48% ад узроўню Іспаніі. А ўжо ў 2017 годзе гэты паказчык склаў 77%. У 2018 годзе рост ВУП Польшчы быў зафіксаваны на адметцы 5,1% – гэта самы высокі рост ВУП за апошнія 10 гадоў.

©Agencja Gazeta

## Што паспрыяла развіццю эканомікі

Сёння Польшча з'яўляецца восьмай па велічыні эканомікай у Еўрапейскім Саюзе і самай вялікай сярод былых членаў Усходняга блока і новых членаў ЕС. Эксперты падкрэсліваюць, што шмат у чым гэта заслуга польскіх улад, якія перш за ўсё не робяць радыкальных крокаў, якія маглі б прыдушыць эканамічны рост і развіццё польскага прадпрымальніцтва. Акрамя таго, падкрэсліваюць польскія эканамісты, вялікае значэнне для далейшага развіцця польскай эканомікі мае таксама наплыў у Польшчу працоўных мігрантаў – украінцаў, беларусаў, прадстаўнікоў азіяцкіх краін. Дарэчы, што тычыцца беларусаў, то за апошнія пяць гадоў колькасць запрашэнняў ад польскіх працадаўцаў для нашых суайчыннікаў вырасла прыкладна ў 12 разоў – да 58 тысяч у 2017 годзе. Прычым гэтая статыстыка не ўлічвае ўладальнікаў карты паляка, якія маюць права свабодна ўладкоўвацца на працу без дадатковых заяў і дазволаў. У Беларусі такія карты атрымалі 100 тысяч чалавек. Польскія эксперты называюць беларусаў другой па колькасці группай замежных рабочых пасля ўкраінцаў.

У мінулым годзе амбасадар Польшчы ў Беларусі **Артур Міхальскі** ў інтэрв'ю «Народнай Волі», адказваючы на пытанне, у чым аснова поспехаў эканомікі Польшчы, сказаў: *«Калі я азіраюся назад і думаю, чым Польшча адрознівалася ў гэтак званым сацыялістычным лагеры, то думаю, што мы можам гаварыць пра чатыры асноўныя фактары. Мы захавалі прыватную ўласнасць у сферы паслуг, а таксама ў абмежаваным аб'ёме ў галіне вытворчасці – калі прыйшоў адпаведны момант, большасць палякаў была гатова весці ўласную гаспадарчую дзейнасць. Другі важны момант – гэта захаванне (таксама ў абмежаваным аб'ёме) прыватнай уласнасці на зямлю, мы захавалі сялянства – тую частку грамадства, якая ведае, што значыць гаспадарыць на ўласнай зямлі. Трэцяе фундаментальнае адрозненне – гэта вельмі важная роля Каталіцкай царквы як фундамента традыцыйных каштоўнасцяў, своеасаблівай імуннай сістэмы супраць ідэалогіі сілы і таталітарных злоўжыванняў.*

*У якасці чацвёртага фактара я назваў бы вельмі моцную нацыянальную ідэю свабоды і незалежнасці, гэта заўсёды жыло ў нашых сэрцах, нават калі афіцыйная версія была іншай...*

*Польшча – член Еўрапейскага Саюза, мы супрацоўнічаем з партнёрамі ў рамках аднаго рынку без мытных бар'ераў, са свабодным перамяшчэннем людзей, капіталу і паслуг. Гэта асноўны рухавік нашага развіцця. Акрамя таго, мы стараемся развіваць і ўдасканальваць тое, што ўмеем рабіць спрадвеку, напрыклад сельскую гаспадарку і вытворчасць прадуктаў харчавання, а таксама развіваць новыя галіны, такія як сучасная прамысловасць, сучасныя тэхналогіі і паслугі».*

## Магчымасці для моладзі

На Польшчу ўсё часцей звяртаюць свае позіркі не толькі тыя беларусы, якія шукаюць працу, але і моладзь. За апошнія гады колькасць беларускіх студэнтаў у Польшчы значна павялічылася. Калі на пачатку 1990-х на вучобу ў Варшаву адпраўляліся адзінкі, то з цягам часу гэты працэс пачаў набіраць абароты. Спачатку магчымасць вучыцца ў Польшчы атрымалі тыя, хто меў польскае паходжанне. Пазней польскі ўрад заявіў, што гатовы падтрымаць маладых людзей, якіх выгналі з беларускіх універсітэтаў па палітычных прычынах. Ну а сёння многія беларусы едуць у Польшчу проста за еўрапейскай адукацыяй. Польскія ВНУ складаюць неад'емную частку сучаснай еўрапейскай сістэмы вышэйшай адукацыі, а гэта азначае якасць, перспектыўнасць і адпаведнасць патрабаванням рынку працы. Паводле падлікаў польскага Міністэрства адукацыі, у 2011/2012 навучальным гадзе ў Польшчы вучыліся 2604 беларускія студэнты, у 2015-м іх было ўжо 4118, а ў 2017-м – 5119. Беларусы ўжо некалькі гадоў з'яўляюцца другой па колькасці групай сярод замежных студэнтаў у Польшчы.

Студэнты польскіх ВНУ маюць магчымасць вучыцца і стажыравацца ў ВНУ Еўропы па праграме абмену Socrates / Эрасмус і такім чынам атрымаць дыпломы дзвюх еўрапейскіх ВНУ. Падчас навучання студэнт мае права на свабоднае перамяшчэнне па Еўрасаюзе з правам на афіцыйную працу ў любой краіне.

Замежныя студэнты маюць магчымасць пражываць як у інтэрнатах, так і ў арандаваных кватэрах. Сярэдні кошт пражывання ў інтэрнаце складае 400–800 злотых у месяц. Студэнты таксама могуць здымаць кватэру. У гэтым выпадку аплачваецца арэнда + кошт камунальных паслуг. Сума залежыць ад колькасці пакояў, месца знаходжання кватэры адносна цэнтра горада або навучальнай установы. Арэндная плата за кватэру складае ад 500 да 1500 злотых у месяц.

## Упэўнены позірк у будучыню

На думку спецыялістаў, польская эканоміка ў 2019 годзе працягне свой рост. А значыць, спатрэбіцца новая працоўная сіла, будуць расці заробкі, прадоўжыць паляпшацца дабрабыт грамадзян.

Прыняты Закон аб бюджэце на 2019 год закладвае сярэднегадавы рост ВУП на ўзроўні 3,8% і інфляцыю на ўзроўні 2,8%. Паводле меркаванняў экспертаў, у 2019 годзе не ўзнікне праблем з яго выкананнем.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

У ТЭМУ

# Пятнаццаць гадоў у еўрапейскай сям'і

Гэтымі днямі ў Варшаве прайшоў саміт краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, прысвечаны 15-годдзю іх уступлення ў Еўрапейскі Саюз. Высокіх гасцей на адкрыцці форуму сустракаў прэм'ер-міністр Польшчы **Матэвуш Маравецкі**, гэты саміт – яго ініцыятыва.

У форуме бралі ўдзел лідары 10 краін, якія далучыліся да Еўрасаюза ў 2004 годзе, а таксама прадстаўнікі Румыніі, Балгарыі і Харватыі. Урачыстая сустрэча праходзіла ў Каралеўскім замку ў Старым горадзе Варшавы. Сярод запрошаных гасцей быў віцэ-прэзідэнт Еўрасаюза **Юркі Катайнен**.

*«Сяброўства ў Еўрапейскім Саюзе шмат у чым змяніла наша жыццё, паставіла нас перад новымі выклікамі, але і прынесла нам несумненную карысць,* – адзначыў прэзідэнт Польшчы **Анджэй Дуда.** – *Адкрыццё межаў дало палякам новыя магчымасці. Многія польскія кампаніі дамагліся поспеху ў Еўропе, ды і сама Польшча вельмі змянілася дзякуючы фондам ЕС, якія плённа выкарыстоўваліся».*

Польшча ўступіла ў Еўрасаюз 1 мая 2004 года разам з дзевяццю іншымі краінамі, сярод якіх былі Венгрыя, Славакія, Славенія, Эстонія, Латвія і Літва. Румынія і Балгарыя сталі сябрамі ЕС у 2007 годзе, а Харватыя – у 2013-м.

СЛЫШАЛИ?

# В Европе появилась страна, где полностью отменят плату за проезд в любом общественном транспорте

*Власти Люксембурга полностью отменят плату за проезд в любом общественном транспорте. Такого решения не принимала еще ни одна страна в мире.*



Это решение – одно из обещаний предвыборной кампании, пишет Life Gate. Считается, что такое решение улучшит систему транспорта в целом. А также сократит огромные пробки, от которых страдает страна.

Столица насчитывает около 115 тысяч жителей, но еще 400 тысяч человек приезжают в город на работу. Приблизительно 200 тысяч человек из Франции, Бельгии и Германии ездят в Люксембург каждый день.

Это привело к тому, что в 2016 году каждый человек простоял в пробке 33 часа.

Транспорт планировалось сделать бесплатным уже летом 2019 года, но министр инфраструктуры Франсуа Бауш заявил, что это будет реализовано в марте 2020 года.

ПУЛЬС

# Договрились...

Корпорация Apple заплатит разработчику микропроцессоров Qualcomm от 4,5 миллиарда долларов. По словам главы Qualcomm Стива Молленкопфа, в зависимости от методики подсчета выплата может оказаться еще больше – до 4,7 миллиарда.

Как известно, судебные тяжбы между компаниями начались в 2017 году. В апреле этого года было объявлено о заключении мирового соглашения по многолетнему патентному спору, но тогда сумму выплат стороны не раскрывали.

Из-за патентного спора, в частности, приостанавливалась продажа некоторых моделей iPhone в Китае и Германии.

# Уволен за утечку информации

Премьер-министр Великобритании Тереза Мэй отправила в отставку министра обороны Гэвина Уильямсона в связи с утратой доверия, сообщает Reuters.

В письме Уильямсону, которое цитируют BBC News и Sky News, Мэй заявила, что он уволен по итогам расследования утечки информации с заседания Совета национальной безопасности Великобритании. Как пишет Reuters, речь идет о заседании, на котором власти разрешили корпорации Huawei развивать в стране сеть мобильной связи пятого поколения (5G).

# Опустили шлагбаум

Польские пограничники не пропустили в страну из России участников мотопробега «Дороги Победы – 2019».

Как сообщает Радио Свобода, ссылаясь на местные СМИ, большинству российских участников клуба запрещен въезд в ЕС для участия в ежегодных мотопробегах с 2014 года. Лидер «Ночных волков» Александр Залдостанов («Хирург») участвовал в мотопробеге только на участке Москва–Брест.

БЕЗ КОММЕНТАРИЕВ...

# В Краснодаре уволят заведующую детсадом, которая заставила ребенка целовать землю

В Краснодаре заведующая детским садом «Звездочка» заставила ребенка встать на колени и целовать землю в наказание за то, что тот, по ее словам, не любит Россию. «На колени, подонок, я сказала! Целуй землю, которая тебя кормит и поит», – кричала женщина.

Инцидент, заснятый прохожими в среду 1 мая, был выложен на видеопортале YouTube. На кадрах видно, как заведующая детсадом грубо оскорбляет ребенка, а других воспитателей обзывает «тварями» за отсутствие патриотизма и неправильное, по ее мнению, воспитание детей. «Где наша нравственность? Где наше нравственное воспитание, если вам ребенок говорит, что он ненавидит русских и Россию?» – гневно вопрошает женщина.

По сообщению Telegram-канала Baza, заведующая детсадом «Звездочка», «опытный педагог, которая даже попала в рейтинг преподавателей Краснодарского края». По ее словам, ребенок, которого она наказала, сложный, ему пять лет, его семья переехала в город из одной из южных республик, и он сразу начал обижать других ребят.

## Заведующая будет уволена по статье

Директор департамента образования Краснодара Алексей Некрасов обещал уволить женщину в ближайший рабочий день. Он сказал, что его ведомство поддержит любые обвинения, поданные родителями ребенка в правоохранительные органы против заведующей. «Заведующая ведет себя безобразно, унижая ребенка, оказывая на него не только психическое воздействие, но и физическое. Кроме того, она фактически унижает и всех остальных детей», – констатировал чиновник.

Полиция проводит проверку для установления всех обстоятельств случившегося. Депутат Госдумы РФ от Краснодарского края Светлана Бессараб обратилась в прокуратуру, назвав действия заведующей дикостью и средневековьем. А уполномоченный по правам ребенка по Краснодарскому краю Татьяна Ковалева сообщила о намерении провести служебное расследование инцидента.

www.dw.com.

